# З усяго сьвету.

ВЕНА. 18.XI. Заходняя часьць Вэнгры, сумежная з Аўстрыяй і найбольш населеная немцамі, выказала сваё жаданьне аб прылучэньні да новатворанай Аўстрыяцкай Нямецкай дзяржавы.

БУДАПЭШТ. Францускае войска заняло места.

БЭРЛІН. 19.XI. Статс-сэкрэтар міжнародных спраў, Сольф, зьвярнуўся з дзьвюма нотамі да саюзьнікаў, у каторых становўка паказавае на страшную небасьпэчнасьць для харчаваньня Нямеччыны, калі саюзьнікі патрабуюць выданьня 5.000 паравозаў і 150 тысяч вагонаў.

Н'Ю-ЮРК. Дзеля нястачы гандлёвых параходаў еміграныя рэчы будуць перавозіцца з Амэрыкі ў Эўропу і ваеннымі параходамі.

ГААГА. Голяндзкія газэты рэзка ганяць нялюдзкасьць саюзьнікаў, каторая праяўляецца ў вымаганых імі варунках замірэньня.

БЭРЛІН. 19.XI. Будзе новая шырокая амністыя цывільных і ваенных асоб. Навет самым цяжкім праступнікам будзе даравана кара, калі яны ў азначаны час ня зробяць ніякіх праступкаў проціў закону.

БЭРЛІН. Групы насяленьня, што стаяць на канцавым левым крыле, проціў скліканьня нацыянальнага сэйму. Асабліва энэргічную агітацыю ў гэтым кірунку вядзе Лібкнэхт у Бэрліне і орган большэвікоў у Саксоніі „Volkszeitung“ у Лейпцызе. Аднак гэтая агітацыя не зьмяняе настрою шырокіх соцыял-дэмакратычных мас, каторыя дамагаюцца, каб нацыянальны сэйм быў скарэй скліканы. Навет орган незалежных соцыялістаў „Freiheit“ дамагаецца магчыма скорага склікання конфэрэнцыі і выказаваецца рэзка проціў палітыкі групы Спартага.

БЭРЛІН. 19.XI. На сягоньняшнім агульным сабраньні ўсіх Салдацкіх і Работніцкіх Рад рэфэрэнт Müller заявіў, што дамаганьне буржуяў склікання нацыянальнага сэйму—гэта спроба адабраць уладу ў пролетарыята. Нацыянальны сэйм гэта сьмяротны прысуд Салдацкім і Работніцкім Радам.

Гаазэ сказаў: „рэволюцыя ўтраціла-б сваё значэньне, калі-б мы цяпер ужо склікалі нацыянальны сэйм. Заместа нацыянальнага сэйму цяпер павінен быць конгрэс Салдацкіх і Работніцкіх Рад Нямеччыны“.

Ледэбур дамагаўся, каб пролетарыат выкарыстаў уладу, каторую цяпер мае, проціў усіх злосьнікаў соцыялістычнай рэспублікі.

ЦЮРЫХ. Гішпанскі ўрад спыніў дыплёматычныя зносіны з урадам радаў.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. Як падлічана, сусьветная вайна каштавала Нямеччыне балей за 2 міліёны людзей мёртвымі, між імі 60 тысяч афіцэраў. Апрача гэтага каля 5 міліёнаў салдатоў павінны будуць даставаць за пашкоджаньне свайго здароўя пэнсыі ад гасударства.

## АБВЕСТКІ.



## АПАВЯШЧЭНЬНЕ.

**Часовыя аблігацыі 4½% запісаў скарбу восьмае ваеннае пазыкі і 4½% запісаў скарбу 1818 г. сэрыя 8 могуць быць зьменены ў канчальныя аблігацыі з процэнтнымі купонамі,**

**пачынаючы з 4 лістапада сёл. г.**

Менка робіцца ў „**Umtauschstelle für die Kriegsanleihen**“, **Berlin W. 8, Behrenstrasse 22.** Апрача гэтага ўсе аддзелы імпэрскага банку, маючыя касы, прымаюць да **15 ліпня 1919** г. паперы на менку дарма. Пасьля гэтага тэрміну часовыя аблігацыі могуць быць зьменены толькі ў «Umtauschstelle für die Krigsanleihen» у Берліне.

Часовыя аблігацыі разам з спісаньнем іх па парадку вартасьці, а ў межах яе папарадку нумэроў трэба падаваць у прадпалудняшнія гадзіны ў названыя месцы; формуляры для спісаньняў можна дастаць ува ўсіх аддзелах імпэрскага банку.

Прадпрыемствы і касы павінны ставіць свой штэмпэль з правага боку зьверху на часовых аблігацыях, каторыя яны падаюць.

---

Менка часовых аблігацый 5% пазычковых запісаў восьмае ваеннае пазыкі ў аканчальныя аблігацыі з процэнтнымі купонамі можа пачацца толькі пазьней. Абвестка аб гэтым яшчэ будзе.

---

Значнае чысло часовых аблігацый ранейшых ваенных пазык усё яшчэ ня зьменена ў сканчальныя. Уласьнікі запрашаюцца ў сваім-жа інтарэсе зрабіць гэта як могучы хутчэй і паказаць гэтыя часовыя сьвядоцтвы для менкі ў «Umtauschstelle für die Kriegsanleihen», Berlin W. 8 Behrenstrasse 22.

Бэрлін, у кастрычніку 1918.

**REICHSBANK-DIREKTORIUM**
Havenstein. v. Grimm.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.